# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 15 (476) | ГОД X | 11 КРАСАВІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

БАСІЛЬ ЖУКОВІЧ

## Яна ў сэрцы дзівоснай мелодыяй

Я пазнаёміцца з ёю ў дзяцінстве не мог:
Я нарадзіўся і рос на скрыжаванні вялікіх дарог...
Можа яе, нібы песню,
хацелі данесці вятры,
Мо' перадаць былі рады
сасновыя нашы бары.
Ды ўпершыню я пачуў на ўроках і лекцыях,
Потым прагна шукаў
у сваім дыялекце.
Увайшла яна ў сэрца дзівоснай мелодыяй
Загучала ціхутка — душой завалодала.
Потым гучанне яе узмацнялі
Адвечная пушча і велічнай Нарачы хвалі.
І цяпер
у якіх бы далёкіх ні быў я краях.
Будзе ў сэрцы гучаць непаўторная мова мая.

Народная ўлада абапіраецца на палітычным саюзе Польскай аб'яднанай рабочай партыі з Аб'яднаным Страніцтвам людовым і Страніцтвам дэмакратычным, знаходзіць сваю масавую базу ў Фронце адзінства народу, які гуртуе ўсе творчыя, прагрэсіўныя і патрыятычныя сілы народу вакол супольнае праграмы сацыялістычнага будаўніцтва, развіцця нацыянальнай гаспадаркі, павелічэння сіл народнай Польшчы і ўзмацнення бяспекі яе граніц.

З уводнага даклада Ул. Гамулкі на III пленум ЦК ПАРП.

## БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ




### 2. ХЛЕБ ШТОДЗЁННЫ

Пад канец мінулага года (стан на 31.12. 1964 г.) жыло ў Нараўцы 947 чалавек. Жанчын налічваецца тут на 79 больш, чым мужчын. На кожных 100 прадстаўнікоў гэтай брыдчэйшай часткі людскога роду прыпадае ў Нараўцы аж 118,2 прыгажуні. (Для параўнання падаю, што ў Беластоцкім ваяводстве як цэласці на 100 мужчын прыпадае ледзь 105 жанчын).

Звяртаю ўвагу на гэты факт не дзеля пустой цікавасці. Кожны год выязджае з Нараўкі больш-менш 20 чалавек. Гэта толькі больш-менш. Здараецца, што хаты бацькоў адразу пакідае некалькі дзесяткаў чалавек. Едуць у свет шукаць шчасця. Запісныя кніжкі паказваюць, што нараўчане найчасцей перасяляюцца ў Быдгашч, Гданьск, Катавіцы і Катавіцкае ваяводства. Значыць там, дзе буйны промысел, дзе патрэбныя людзі да працы. Зусім зразумела, што мужчынам, асабліва маладым, шмат лягчэй рашыцца пакінуць бацькоўскі парог. Гэта на маю думку асноўная прычына «дэфіцыту» мужчынскага роду ў Нараўцы.

Узнікае пытанне, чаму людзі ўцякаюць з Нараўкі, чаму пасля вайны яе насельніцтва пастаянна змяншаецца, хаця нараўкоўскія «буслы» не гультайнічаюць?

Каб адказаць на гэтае пытанне, неабходна ведаць, з чаго нараўчане ядуць свой хлеб штодзённы.

Апошні сельскагаспадарчы спісак (стан на дзень 3.12.64 г.) паказвае, што найбольш людзей у Нараўцы займаецца хлебаробніцтвам. Знаходзіцца тут 175 гаспадароў. Гаспадаркі аднак вельмі раздробленыя, парэзаныя на вузенькія палоскі. Найбольшая колькасць гаспадарак (амаль аж 40) не налічвае нават поўных 2 гектараў агульнай плошчы. Такая «гаспадарка», зразумела, не дае асновы для ўтрымання сям'і. Яна можа быць толькі дадаткам да штомесячнай зарплаты. Нашае права не дазваляе раздрабняць гаспадарак ніжэй 8 га. У Нараўцы такія гаспадаркі палічыць можна на пальцах дзвюх рук і яшчэ два пальцы застануцца ў запасе. Нараўкаўскія сяляне прадукуюць толькі і выключна на ўласны ўжытак ды і не заўсёды змогуць яны абяспечыць свае патрэбы.

(Працяг на стар. 4)



Гаспадар Нараўскай грамады, старшыня Сяргей Цыханюк аптымістычна глядзіць на цяперашні і будучы лёс Нараўкі.

## РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРАВА ДА АСВЕТЫ Ў НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ

Кожнаму, здорава думаючаму чалавеку ясным з'яўляецца тое, што каб даць сялянскім дзецям магчымасць асветы, не хопіць прызнаць ім гэтае права ў словах, трэба яшчэ ствараць рэальныя магчымасці навучання, адпаведную арганізацыю школьнай сістэмы, адпаведную колькасць школ, настаўнікаў, сарганізаваць усім даступнае, бясплатнае навучанне.

Такое, сапраўднае права да асветы атрымалі ўсе сяляне ў народнай Польшчы. У кожнай, нават найменшай вёсцы існуе зараз прынамсі 4-класная пачатковая школа, пры чым пасля аканчэння гэтай школы дзеці ходзяць у школу да бліжэйшай, суседняй вёскі, дзе без ніякіх цяжкасцей могуць скончыць 7 класаў. Няма зараз ніякіх цяжкасцей у здабыцці сялянскімі дзецьмі сярэдняй, а таксама і вышэйшай асветы. Усе нацыянальныя меншасці, пражываючыя на тэрыторыі Польшчы, у тым ліку і беларусы, атрымалі поўнае права навучання сваіх дзяцей у роднай мове. Пры дапушчэнні моладзі нацыянальных меншасцей да рознага тыпу школ і навуковых устаноў знесена ўсялякія, існуючыя да вайны, абмежаванні.

Возьмем для прыкладу Гайнаўскі павет. На 77 існуючых у гэтым павеце школ у 70 навучаецца беларускай мовы, пры чым у 17 школах беларуская мова з'яўляецца мовай навучання, у іншых — навучаецца яе як усе іншыя прадметы навучання. Роднай мовы навучаюць тут настаўнікі высокакваліфікаваныя. 18 з іх закончыла аддзяленне беларускай філалогіі на Завочнай настаўніцкай студыі, іншыя — педагагічны ліцэй з беларускай мовай у Бельску Падляшскім. Настаўнікі гэтыя і ў далейшым павышаюць свае кваліфікацыі на курсах беларускай мовы, якія штогод арганізуюцца ў Беластоку, а таксама ў мясцовым метадычным цэнтры, які вядзе настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім ліцэі — Ніна Вішнеўская. Кожны год з Гайнаўскага павета выязджае 8 настаўнікаў у Мінск, дзе праз месяц часу паглыбляюць свае веды па беларускай мове і літаратуры, знаёмляюцца з культурай Савецкай Беларусі. Зразумела,

(Працяг на стар. 5)








На Нарве ля Целушкоў

Фота: Паўлючук

 

# Моцная дружба і саюз

У мінулы панядзелак жыхары Варшавы сардэчна віталі партыйна-ўрадавую дэлегацыю Савецкага Саюза на чале з Леанідам Брэжневым і Аляксеем Касыгіным. Савецкая дэлегацыя прыбыла зусім напярэдадні 20-ай гадавіны падпісання дагавору аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Галоўнай мэтай візіта было падпісанне такога дагавору на наступнае дваццацігоддзе.

Гэтая падзея, сведкамі якой мы з'яўляемся, прыпамінае нам тыя памятныя дні, калі падпісаўся першы польска-савецкі дагавор, і дае нагоду азірнуцца на яго з перспектывы мінуўшых дваццаці год.

Дагавор ад 21 красавіка 1945 года нарадзіўся ў агні супольнай барацьбы з гітлераўскім фашызмам. Нарадзіўся па жаданню прагрэсіўных элементаў польскага грамадства, якое, перамагаючы гітлераўскі фашызм, адначасова наносіла ўдар па сваёй уласнай рэакцыі і брала лёс краіны ў свае рукі.

Адначассва польска-савецкі дагавор азначаў канец старой эпохі сварак, калі польская буржуазія старалася падліваць масла ў агонь супярэчнасцей, і адкрываў няведамы дагэтуль перыяд новых адносін паміж абедзвюма дзяржавамі. Замест шкодных для абедзвюх дзяржаў і народаў адносін варожасці і нянавісці дагавор увёў сяброўскае супрацоўніцтва і ўзаемадапамогу. І, галоўнае, дагавор выражаў жыццёвыя інтарэсы польскай дзяржавы і яе народа, быў выражэннем мудрага прадбачання кіраўнікоў нашай краіны, быў выражэннем пераканання, што сувярэннасць і моц польскай дзяржавы можна будаваць толькі абапіраючыся на палітычную і бескарысную эканамічную падтрымку першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы.

Гісторыя даказала слушнасць тых поглядаў. Савецкі Саюз аказаўся найвярнейшым абаронцам нашых дзяржаўных інтарэсаў у Патсдаме, калі вырашаліся лёсы нашых заходніх граніц. Толькі дзякуючы станоўчасці Савецкага Саюза мы атрымалі нашы прастарыя заходнія землі аж да Одры і Нысы. Толькі дзякуючы бескампраміснасці Савецкага Саюза заходнія граніцы Польшчы былі замацаваны назаўсёды і перакасавалі заходнегерманскія рэвізіяніцкія мары аб новым паходзе на ўсход.

Польска-савецкі дагавор вытрымаў пробу часу, што для нас мае асаблівае значэнне, бо ўсе нашыя гаспадарчыя дасягненні цесна вяжуцца з дапамогай Савецкага Саюза і з гандлёвым абменам паміж нашымі дзяржавамі. Савецкая дапамога ў выглядзе капіталаўкладанняў памагла нашай краіне за кароткі перыяд часу з сельскагаспадарчай краіны стаць прамысловай. Савецкая гаспадарчая дапамога мела рашаючы ўплыў і на тое, што з краіны, якая высылала на экспарт галоўным чынам сыравіну і паўфабрыкаты, Польшча стала экспарцёрам розных прамысловых вырабаў, машын і прадметаў хатняй патрэбы. Гэтыя змены ў структуры гаспадаркі Польшчы вельмі добра відаць у гандлёвым абмене з Савецкім Саюзам. Сёння з краіны Саветаў увозім у першую чаргу сыравіну: нафту, жалезную руду, бавоўну і г.д., а вывозім туды камплектныя прамысловыя аб'екты (цукровыя заводы, фабрыкі лакаў і фарб, фабрыкі мінеральнага ўгнаення), судны і球 рознае абсталяванне.

Умацаваная за мінулае дваццацігоддзе польска-савецкая дружба мае сёння каласальнае міжнароднае значэнне. Узмоцненая абаронным Варшаўскім дагаворам, гэтая дружба прадстаўляе сабой перашкоду на шляху агрэсіўных імперыялістычных намераў. У рамках сістэмы сацыялістычных дзяржаў польска-савецкая дружба сёння з'яўляецца найбольшай гарантыяй міру і бяспекі нашай краіны.

І сёння, у новым дагаворы, які ахоплівае бліжэйшыя дзесяцігоддзі, ляжаць у аснове тыя самыя ідэі, як 20 год назад. Новы дагавор, як і папярэдні, выражае інтарэсы абедзвюх нашых дзяржаў, выражае інтарэсы ўсяго сацыялістычнага лагера і рабочага класа ўсяго свету. І гэтая праўда з'яўляецца несумненнай для кожнага грамадзяніна нашай краіны.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**




**Шэрыф паведамляе паліцэйскаму, што кіраваць рэгістрацыяй неграў будзе надзейны чалавек... куклуксклanaвец. Так французскі мастак Камб пракаменціраваў рэгістрацыю неграў на выбарчым пункце ў штаце Алабама (ЗША).**





■ Усё шырэй і шырэй заваёўвае замежны рынак прадукцыя радыё- і электратэхнічнай прамысловасці Беларусі. 36 дзяржаў свету купляюць цяпер гэту прадукцыю — сярод іх такія развітыя дзяржавы як Англія, Японія, ГДР, ФРГ, Чэхаславакія. Беларускае шкло ідзе ў 21 краіну, у тым ліку і ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Купляюць заграніцай таксама беларускае льнянoe валакно, вырабы тэкстыльнай прамысловасці, харчовай і лясной прамысловасці, будаўнічыя матэрыялы і г.д.

■ На ўскраіне Мінска вядзецца будаўніцтва гароднiннай фабрыкі. Яна будзе даваць у год 10.330 цэнтнераў агуркоў, 4.420 цэнтнераў памідораў і 8.600 цэнтнераў радыскі, цыбулі-пер'я, салаты, шпінату і кропу.

■ У Мінску 21 сакавіка пачалася тыднёвая III Дэкада народнай творчасці Беларусі. Выступіць пяць тысяч артыстаў-аматараў. Цікавейшыя звесткі аб Дэкадзе надрукуем у наступным нумары «Нівы».

■ Беларусь узбагацілася яшчэ адной крыніцай мінеральнай вады. Пад час будовы калодзежа чыстай пітной вады з глыбіні 860 метраў забіў фантан мінеральнай вады, якая — як аказалася — добрая ў лячэнні сэрцавых хвароб, а таксама добра лечыць некаторыя хваробы перыферыйнай нервовай сістэмы. Гэта вада знаходзіцца на тэрыторыі санаторыя «Летцы» на Віцебшчыне.

■ Ужо дзесяць год існуе ў Мінску дзіцячая чыгунка. Пасля зімы адкрыццё руху на гэтай чыгунцы адбудзецца 2 мая. Тут усё абслугоўваюць дзеці, якія такім чынам лепей пазнаюць таямніцы тэхнікі і правілы руху.

■ У Лідзе пабудавана новы корпус аўтарамонтнага завода. Цяпер будуць тут праводзіць капітальныя рамонты грузавых машын калгасаў і саўгасаў Гродзеншчыны.

■ У калгасе імя Леніна Капыльскага раёна Антона Корбута ведаюць не толькі як добрага працаўніка, але і як выдатнага скрыпача. Паслухаць музыку прыходзяць многія аднавяскоўцы. Цікавая гісторыя скрыпкі. Ёй каля 300 гадоў. Скрыпачамі былі дзед і бацька А. Корбута, а цяпер на скрыпцы іграюць ён і дзеці.

Антон Корбут выхаваў восем дочак. Усе яны вельмі любяць музыку і калі збяруцца разам ды зайграюць на розных інструментах — не наслухацца. Асабліва прыгожа гучыць у руках бацькі старая скрыпка.

■ Вырабы Віцебскага дыванoвага камбіната можна сустрэць на многіх міжнародных выстаўках — у Познані, Лейпцыгу, Мілане, Дамаску, Джакарце. Беларускія дываны з'яўляюцца надзвычай папулярнымі ва ўсім свеце.



На здымку: у мастацкай майстэрні камбіната мастачкі В. Сенькіна, З. Лудано і А. Саляшкова (злева направа) працуюць над новым узорам. (СЯ)

## Наша акцыя

# Кніжкі для Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку

Падарунак **Павятовай і Гарадской бібліятэкі ў Бельску Падляшскім:**

*B. Priestley — „Pan inspektor przyszedl", „Prawda o drugim froncie"; S. Askanas — „Jak przygotować i przeprowadzić"; Maupassant — „Opowiadania", „Pchnięcie kulą"; W. Żuławski — „Tragedie tatrzańskie"; B. Bieńkowska — „Atom i znachorzy"; I. Gumowska — „My i nasz dom"; K. Filipowicz — „Kraj niewzruszony", B. Czeczko — „Pokolenie", „Wspomnienia z walk młodzieży chłopskiej"; Nowicki — „Podróż w świat średniowiecznych cudów"; B. Prus — „Bywa i tak na świecie"; M. Wardasówna — „W śniegu i słońcu"; A. Żabińska — „Dżolly i S-ka"; W. Niekrasow — „W okopach Stalingradu"; Ch. Kingsley — „Na podbój świata"; S. Ligon — „Z Komborni w świat"; Bieniasz — „Przygody wilka gagatka"; J. Millerowa — „Krótki podręcznik bibliotekarski".*



# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

**Падзеі, пра якія расказвае аўтар, вядомы амерыканскі журналіст Арт Шылдс, адбыліся 25 гадоў назад у рэспубліканскай Іспаніі. Гэтыя падзеі актуальныя і цяпер, яны напамінаюць пра лёс вязняў, якія да гэтага часу пакутуюць у франкісцкіх турмах.**

# МІНУЛА ЧВЭРЦЬ ВЕКУ...

Нас арыштавалі, калі ў вулічных баях загінула апошняя апора рэспублікі ў горадзе. Франка атакаваў прыгарады, а пятая калона нанесла здрадніцкі ўдар з тылу.

Узброеныя аўтаматамі салдаты выстраілі нас ля сцяны. Шэсць замежных карэспандэнтаў, балгарын Мікола Гаргаў, немец Ганс Маасен, італьянец Джузепе Рэджыані, француз Анры, бельгійка Берта Маншэ і я — амерыканец, карэспандэнт «Дэйлі Уоркер». Ледзь нашы спіны адчулі дотык сцяны, на нас накінуўся нейкі вар'ят з лаянкай і пагрозай аўтаматам. Здавалася, да смерці заставалася доля секунды, але другі салдат адвёў яго руку.

Прызнаюся, на нейкі момант усё сціснулася ўнутры. Але, калі я глянуў на сваіх таварышаў, самавалоданне вярнулася да мяне. І зноў іх вытрымка і знаходлівасць дапамаглі мне на допыце ў турме. Допыт вялі дамарослыя «следчыя».

Гэта былі тры малойчыкі са значкамі ФАІ — Федэрацыі анархістаў Іберыі — у пятліцах. (Анархісты складалі большую частку сіл пятай калоны. Здраднікаў падтрымлівалі таксама лідэры правых сацыял-дэмакратаў, левай рэспубліканскай партыі і трацкісты).

Кожны з іх быў узброены двума аўтаматычнымі пісталетамі. Ім даўно хацелася хутчэй расквітацца з намі так, як зрабілі на гэтым тыдні з тысячамі камуністаў і патрыётаў. У першую чаргу малойчыкі накінуліся на мяне. «Ты маскоўскі змоўшчык!» — крычалі яны. Але Гаргаў, Маасен і іншыя прыйшлі мне на дапамогу. Яны з усмешкай спыталі, як Масква магла выкарыстоўваць чалавека, які дрэнна гаворыць па-іспанску і ніводнага слова не ведае па-руску. Аргумент, відаць, паказаўся анархістам пераканаўчым. Дадаўшы некалькі праклёнаў і аблаяўшы мяне, яны, нарэшце, пакінулі мяне ў спакоі. Але допыт маіх сяброў працягваўся яшчэ тры гадзіны. Нарэшце, нас павялі ўніз, у падвал, дзе знаходзіліся камеры. Наша камера ўяўляла сабой бетонны калодзеж каля 11 футаў у даўжыню і 5 у шырыню. На падлозе валяліся акрываўленыя павязкі і некалькі вінтовачных гільз. Пра мужнасць вязняў, якія па-

(Працяг на стар. 5)

 

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# БЕЛАСТОЦКІЯ ДАСЯГНЕННІ

Хатняя жывёла, так як спартсмены, мае сваю пунктацыю, дыпломы, медалі. Кожны вынік можа быць пасведчаннем добрай працы чалавека, які кіруе прыродай, каб яна найлепш служыла людзям.

Прыкладам вялікага ўмення з'яўляецца Дзяржаўная станцыя гадоўлі на расплод у Элку. Яна ўжо сабрала вялікую калекцыю медалей: 30 залатых, 21 сярэбраную і 13 бронзавых. Аб дыпломах, пахвальных граматах і заметках у друку дырэктар станцыі Альбін Ясінскі не ўспамінае. Хто ж іх там памятае?

Сем год запар элцкая станцыя займае I месца на жывёлагадоўчых паказах свіней.

Здзіўляючых вынікаў нават у маштабе Еўропы дабілася гаспадарка ў Рускай Всі. Ужо тры гады яна здабывае I месца па рагатай жывёле. I зноў віншаванні, словы прызнання, пахвалы. Станцыя ў Элку паказала, чаго варта свядомая і абдуманая праца жывёлавода. Ад 2117 літраў малака ад адной каровы ў год у 1954 годзе дайшлі да 3880 літраў. Колькасць тлушчу павялічылася з 3,83% да 4,10%.

З 40 найлепшых кароў у Польшчы II месца займае карова «Рэдута», якая дае 8.186 літраў малака ў год. На працягу года з гэтага малака можна атрымаць 352,2 кг тлушчу.

Сярод 15 найлепшых кароўнікаў 5 месца займае кароўнік в. Саркі.

Мы пацікавіліся, у чым заключаецца таямніца гэтых поспехаў. У адказ усміхнуліся шматзначна. Што ж гэта за таямніца! Усё можна праверыць, паглядзець сваімі вачыма, пераканацца.

Найважнейшая рэч — мець кармы. Калісьці на элцкай станцыі мала было сакавітых і аб'ёмістых кармоў. Склалі тады такі севазварот, які забяспечыў бы патрэбную колькасць кармоў.

Дырэктар Альбін Ясінскі гаворыць:

— Гаспадарка не павінна купляць сена і сакавітыя кармы. Павінна так арганізаваць прадукцыю, каб гэтых кармоў было ўдосталь. У гэтым годзе ў некаторых нашых гаспадарках прыпадае па 60 кг сакавітых кармоў на галаву жывёлы ў дзень.

Другая справа — высакаякасная парода жывёлы. Толькі ў двух кароўніках на станцыі гадуюць кароў чырвонай польскай пароды. Ва ўсіх астатніх толькі чырвоная дацкая, якая будзе распаўсюджана па ўсім ваяводстве на расплод. Такім чынам будзем паляпшаць якасці нашай чырвонай польскай пароды.

Трэцяя ўмова поспехаў — спецыяльная падрыхтоўка людзей, наглядаючых за жывёлай. На гаспадарках, якія належаць да элцкай станцыі, усе рабочыя маюць адпаведную падрыхтоўку. 75 чалавек здалі экзамен кваліфікаваных рабочых.

Элцкая станцыя займае 2% сельскагаспадарчых угоддзяў, а дае 10% малака, якое скупляецца ў павеце.

Аднак самая важная рэч — быкі высакаякаснай пароды на расплод, якія лічацца аднымі з лепшых у маштабе краіны.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

## СУПРОЦЬ ЧАРТАПАЛОХУ

Цяперашняя ГРН у Храбалах закончыла сваю працу прыняўшы пастанову вельмі важную для сялян сваёй грамады. Датычыць яна барацьбы з пустазеллем на палях, на панадворках, пры дарогах, на чыгуначных адхонах і ўсюды там, дзе мог бы развесціся чартапалох і сотні другіх яго суродзічаў.

Для паспяховай і планавай барацьбы з пустазеллем неабходныя дзве рэчы: паспяховыя хімікаты і машыны, пры дапамозе якіх можна было б рассеяць гэтыя хімікаты на палях. Пра адно і пра другое падумала храбалоўская ГРН. Каб забяспечыць сялян хімікатамі, Прэзідыум ГРН у Храбалах склаў дакладны спісак рознага роду хімікатаў і перадаў яго бельскаму ГС-у, назначыўшы яму адначасова тэрмін дастаўкі. Плёскі, Гацькі, Дзянскі і Кнаразы маюць уласныя апырсквальнікі. Райск — нават два. У гэтых вёсках дзейнічаюць сельскагаспадарчыя гурткі і яны будуць кіраваць усім мерапрыемствам. Іншыя вёскі мусяць спадзявацца на дапамогу бельскага ПОМ.

Важна, каб барацьбу з пустазеллем праводзіць комплексна. За хімікаты і апаратуру трэба плаціць. Знойдуцца тады напэўна дзядзькі, якія, махнуўшы рукой, скажуць:

— А мне напляваць на вашыя хімікаты! Неяк без іх абыйдуся.

I застануцца ў вёсцы адна або дзве палоскі, парослыя пустазеллем, як скулы на здаровым целе. Восенню даспее зелле, вецер кругом разнясе яго насенне і вясной, нягледзячы на апырскванне хімікатамі, зноў зажаўцее рэдзюха і разрасцецца чартапалох.

(Працяг на стар. 7)

# Мінула чвэрць веку...

(Працяг са стар. 2)

кутавалі тут да нас, гавалі надпісы на сценах. Ведаючы, які лёс іх чакае, збітыя і знясіленыя патрыёты пісалі: «Няхай жыве рэспубліка!»

Гэта была камера смяротнікаў. Адзін раз у дзень вартаўнік кідаў на брудную бетонную падлогу кавалак сухой, наскрозь прасякнутай соллю траскі (дорша) і тры маленькія кавалачкі хлеба. Пасля першых праглынёных кавалкаў паднябенне гарэла, нібы ў агні. Мы крычалі «Вады! Вады!» і стукалі ў дзверы. Мы стукалі да таго часу, пакуль нас па чарзе не выводзілі ва ўмывальнік.

I яшчэ мы спявалі. У мяне да гэтага часу гучыць у вушах голас Гаргава, які спяваў «Інтэрнацыянал» у самыя цяжкія мінуты нашага знаходжання ў турме. Так было і тады, калі выводзілі на расстрэл антыфашыстаў з суседніх камер, так было, калі ахова загадала нам рыхтавацца да смерці.

Аднойчы цэлы дзень дзверы камеры не адчыняліся. Мы не атрымалі нават свой кавалак траскі. Відаць, гэта значыла, што наступіў наш апошні дзень. Трэба было неадкладна прымаць рашэнне. На лістках з майго блакнота мы напісалі тэлеграмы паслам і іншым уплывовым асобам. Мы ведалі, гэтыя пасланні не будуць дастаўлены адрасатам, але, магчыма, яны нейкім чынам уздзейнічаюць на турэмнае начальства.

Мы разлічвалі правільна. Мяне павялі на новы допыт, які на гэты раз вялі вышэйшыя чыноўнікі. Яны хацелі атрымаць дадатковыя звесткі аб маіх сувязях... (а-ся)

# Рэалізацыя права да асветы ў народнай Польшчы

(Працяг са стар. 1)

што навучанне роднай мовы стаіць тут на высокім узроўні. Моладзь беларускай нацыянальнасці, якая пасля заканчэння пачатковай школы хоча далей вучыцца у роднай мове, мае магчымасць паступіць у Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання, які існуе ў Гайнаўцы ад 1949 года. За час працы гэтага ліцэя закончыла яго каля 300 выпускнікоў. Працуюць яны зараз у розных дзяржаўных установах, а таксама настаўнікамі ў беларускіх вёсках, некаторыя пайшлі вучыцца далей, у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Адна з выпускніц ліцэя, Марыя Чурак працуе нават у Польскай акадэміі навук, як спецыяліст па беларускай мове.

Зразумела, што не ўся моладзь, якая пасля заканчэння пачатковай школы хоча вучыцца далей, паступае ў ліцэй з беларускай мовай. У Гайнаўскім павеце існуе яшчэ чатыры іншыя сярэднія школы. Пры тым частка моладзі ідзе вучыцца ў Бельск і Беласток.

Для моладзі, якая пасля заканчэння VII класаў засталася ў родных вёсках на Гайнаўшчыне, як і ў іншых паветах, існуюць школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (СПР-ы). Даюць яны апрача ведаў агульнага характару добрую падрыхтоўку да практычнай працы на гаспадарцы.

Гайнаўскі павет узялі мы як прыклад таму, што пражывае тут найбольш беларусаў. Але і ў іншых паветах Беласточчыны маем падобную сітуацыю. Мясцовыя ўлады з аднолькавай увагай клапоцяцца аб стане школьніцтва ў вёсках з польскім як і беларускім насельніцтвам. Ва ўсіх паветах, дзе пражывае беларускае насельніцтва, развіваецца асвета на беларускай мове.

Зараз на Беласточчыне існуе 173 пачатковыя школы, у якіх вучыцца на беларускай мове 11302 дзяцей, працуюць два агульнаадукацыйныя ліцэі з беларускай мовай навучання і адзін ліцэй (у Міхалове) з беларускай мовай як прадмет. Для падрыхтоўкі настаўніцкай кадры навучаецца беларускай мовы ў Педагагічным ліцэі ў Бельску Падляшскім, частка кваліфікаваных ужо настаўнікаў паглыбляе свае веды на Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. І ўрэшце, на Варшаўскім універсітэце існуе Аддзяленне беларускай філалогіі, якое падрыхтоўвае спецыялістаў-моваведаў.

Такім чынам у народнай Польшчы здзейсніліся мары перадавых кругоў даваеннай Польшчы аб праве да асветы для ўсіх грамадзян незалежна ад нацыянальнага ці грамадскага паходжання.

УЛ. ПАЎЛЮЧУК

Фота аўтара



Лекцыя ў II класе пачатковай школы ў Белавежы.



На пляцы Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы.

## ЗА ПАРОГАМ СЯЎБА

# Аўсяныя турботы

Набліжаецца час сяўбы яравых. Гаспадары стараюцца закупіць зерне яравых культур для рэпрадукцыі і для аднаўлення. Тым часам, ёсць вялікія цяжкасці з купляю іх у ГС-ах.

Напрыклад, ГС у Міхалове атрымоўвае мала аўса, хаця цвёрда паабяцалі яму сямнаццаць з паловай тон **рэпрадукцыйнага** аўсянага зерня. У тым ліку, прыміхалоўскі ПГР у Геранімаве запэўніў, што дасць сем з паловай тон і... даў усяго пяць з паловай. А хто дадасць рэшту таго ніхто не ведае, нават у Беластоку. Міхалоўскі ГС таксама павінен быў прадаць сто дзесяць тон аўсянага зерня **для аднаўлення,** але не атрымаў нічога. Беластоцкая насеняводчая цэнтраля, якая адказная за дастаўку зерня для ГС-аў заяўляе, што ГС у Міхалове можа лічыць толькі на дванаццаць — пятнаццаць тон, замест сто дзесяці.

Аўсяныя турботы ўсюды, мабыць, у цэлай Польшчы. Гэта вынік засухі ў мінулую вясну і лета. Яна зрабіла некарысны ўплыў на якасць аўсянага зерня, на яго жыццяздольнасць — сілу ўзыходу. Таму кожны гаспадар перш чым сеяць, павінен спачатку выпрактыкаваць яго. Як выпрактыкаваць, справа простая. Узяць у далоню крыху зерня, палічыць дакладна яго і запісаць лічбу для памяці, а зерне засеяць, напрыклад, у старым гаршчку з зямлёю. Калі ўзыдзе, тады трэба палічыць, колькі вырасла каліваў руні. Такім чынам, будзем прыблізна ведаць, колькі трэба высеяць аўса, каб не быў за рэдкі ўзыход.

Гэтакай практычнай парадаю хацелася б закончыць «аўсяныя разважанні», ды нельга паўстрымацца ад рэплікі: калі вядомы ёсць такія цяжкасці з забеспячэннем дастаўкі зерня, асабліва, **рэпрадукцыйнага,** дык пашто да апошняй хвілі абяцаць, запэўніваць, прысылаць фармальныя пацвярджэнні і т. п. Людзі надарэмна чакаюць, спадзяваюцца. Ці не лепш выясніць гэтыя цяжкасці па-шчырасці. Ніякі цуд і так не станецца — кажуць у Багнюках, што з пустога і Саламон не нальле!

З бульбаю не будзе такіх цяжкасцей, ГС-ы — у іх ліку і міхалоўскі — атрымаюць яе поўны прыдзел. Прывязуць недзе ў другой палове красавіка. Каб толькі не было запозна, і каб напраўду прывезлі яе ў вызначаным тэрміне. Вось такая просьба да насеняводчай цэнтралі ў Беластоку і яе супрацоўнікаў. Бо, ведаеце, людзі добрыя, з абяцанымі тэрмінамі ўсяляк бывае... (ся)

## За жолуды на экскурсію

Вучні пачатковай школы ў Чэхах Арлянскіх восенню мінулага года, калі падалі жолуды, разам са сваімі настаўнікамі ездзілі ў Белавежскую пушчу збіраць іх. Прадаўшы жолуды, купілі радыёлу і многа грампласцінак. Цяпер часта адбываюцца школьныя вечары і танцы для вучняў пад радыёлу, фільмы, нядаўна цікавым быў «маскарадны баль», з якога вучні былі вельмі задаволеныя. Пастаноўлена, што ў бягучым годзе зноў выедзе школа збіраць жолуды, і за атрыманыя за іх грошы выедзе на экскурсію ў Варшаву.

Міхась Самасюк
в. Чэхі Арлянскія

 

# НОВЫЯ ЗДАБЫЎЦЫ НЕБА



Новы палёт савецкіх касманаўтаў прынёс новую перамогу навукі і чалавека ў здабыцці Сусвету. Новасць заключаецца ў тым, што першы раз чалавек выйшаў з кабіны карабля і плываў адзін у халодным бяздонным Космасе.

Як адчуваў сябе чалавек? Аляксей Ляонаў сказаў, што дасканала! Ляонаў быў у Космасе 20 мінут і ляцеў разам з караблём 8 км у секунду.

Капітанам карабля «Узыход — 2» быў Павел Бяляеў.

Абодва касманаўты нумар 10 і 11 акружылі Зямлю 17 разоў і пры дапамозе ручнога кіравання селі на снягу ў раёне Уральскіх гор.

На здымку: касманаўты нумар 10, 1, 11.

# ЯК ЗАБІЦЬ СЛОВАМ?



Папулярная пагаворка, што «словам можна забіць чалавека», мае не толькі пераносны, але і даслоўны сэнс. У медычнай, псіхалагічнай і этнаграфічнай літаратуры можна знайсці многа прыкладаў забойства людзей... словам.

Вядомы, напрыклад, такі вось выпадак. Малады лекар хацеў аднойчы супакоіць старую бабулю, якая надта пераймалася сваёю хваробаю і сказаў ёй:

— Мы з табою, бабуля, у адзін дзень памрэм.

Праз нейкі час бабуля ізноў прыйшла да лекара і, даведаўшыся, што лекар нагла памёр, шчыра здзівілася:

— А я яшчэ жывая? — І тут жа на вачах усіх памерла.

Гэта паказвае, як вялікі ўплыў на чалавека мае яго перакананне. Чалавек, які моцна перакананы, што з той ці іншай прычыны мусіць памерці — сапраўды можа памерці. І наадварот: наша перакананне, што дадзенае лякарства нас вылечыць, можа нам дапамагчы больш чым само лякарства.

Англійскі этнолаг Джэмс Фрэзар расказвае аб тым, што плямёны Новай Зеландыі вераць у святасць сваіх правадыроў. Адзін правадыр высокай рангі і святасці пакінуў рэшткі недаедзенага абеда на дарозе. Надыйшоў адзін з мясцовых жыхароў і, убачыўшы рэшткі ежы, з'еў яе. Быў гэта здаровы мужчына, які адзначаўся вялікай адвагай. Калі, аднак, неўзабаве даведаўся, што гэта былі рэшткі ежы правадыра хапілі яго дзіўныя канвульсіі, якія не прайшлі аж да смерці на захадзе сонца гэтага ж дня.

Другі прыклад датычыць Палесся. Выпадак з вёскі Камаровіч канца XIX стагоддзя.

Аднойчы старэйшая жанчына гэтай вёскі, нейкая Аксеня Лобачава, украла ў сваё суседкі некалькі пучкоў ільну, за што пакрыўджаная пачала праклінаць Аксеню жадаючы ёй смерці. Завязала прытым у збожжы Аксені завітку. Калі Аксеня ўбачыла завітку ў збожжы, збялела як труп і, хаця старалася яшчэ працаваць, рукі яе дрыжэлі, у галаве круцілася і вымушана была вярнуцца дахаты. У тры дні потым у найстрашнейшых муках канала. Да хворай прывялі нават мясцовага лекара, але той убачыўшы безнадзейны стан хворай хутка пакінуў хату.

Зразумела, што падобныя выпадкі, якіх механізм крыецца ў даўно вядомай псіхолагам з'яве званай «сугестыяй» угрунтоўваў веру людзей у розныя чары і магічныя закляцці і ў сваю чаргу ставаўся прычынаю гэтых выпадкаў.

На шчасце зараз падобныя факты ў нас не здараюцца, тым не менш паказваюць яны, які вялікі ўплыў на наш арганізм могуць мець нашы перакананні. (п)

Мала, але цікава

## Пра яблыкі



У яблыках гатунку «антонаўка» і «цітаўка» пасля 100 дзён ляжання застаецца толькі 28% усяе колькасці вітаміна С. Калі з яблыкаў прыгатовіць кампот кансерваваны, тады нават пасля двух гадоў перахавання будзе ў ім 65% вітаміна С. Вывад з гэтага: лепш яблыкі варыць на кампот, чым перахоўваць сырымі.

Па свеце

## СУДАН

Вялікая афрыканская краіна на поўдзень ад Егіпта. Гарачы трапічны клімат. Суданчыкі з выгляду не надта розняцца ад нас, але іх хаты зусім іншыя па форме.

На першым здымку бачым маладых з суданскага вяселля, на другім суданскую вёску. (вл)








Калі Дзяменцяў выйшаў на плошчу, суседні дом, у які трапіла бомба, яшчэ гарэў, і каля яго мітусіліся салдаты і пажарнікі. Дзяменцяў быстра перасёк плошчу і павярнуў у вузкі завулак. Трэба было яму хоць раз азірнуцца — тады ён прыкмеціў бы, што за ім неадступна ідзе чалавек у цывільным. Але Дзяменцяў ішоў не аглядаючыся. Зрэшты, пасланы Крамергофам шпік на гэты раз змог устанавіць толькі тое, што Дзяменцяў палкоўніка не абмануў і ўвайшоў у дом чатыры на Бастыённай вуліцы. Праз мінуту шпік далажыў аб гэтым па тэлефону Крамергофу і атрымаў загад працягвацьназіранне да наступнага дня.

...Гаспадыня кватэры сустрэла Дзяменцява са здзіўленнем:

— Як? Вы яшчэ не ад'ехалі?

— А чаму я павінен ад'язджаць раней за ўсіх? — злосна спытаў Дзяменцяў.

— Мы з дачкою толькі што слухалі радыё... Баі ідуць ужо ў Берліне.

— За слуханне і распаўсюджванне маскоўскай прапаганды мы расстрэльваем! — Дзяменцяў хутка прайшоў у свой пакой і зачыніў дзверы.

Баі пад Берлінам!..

66

Дзяменцяў усміхнуўся. У пакой нясмела ўвайшла гаспадыня.

— Прабачце мне, пане капітан... Але, магчыма, вы мяне не зусім правільна зразумелі?

— Я зразумеў вас дасканала! — з пагрозай сказаў Дзяменцяў. — І, калі ласка, не перашкаджайце мне адпачываць.

Гаспадыня хутка скрылася за дзвярыма. Дзяменцяў замкнуў дзверы.

Уключыўшы перадатчык, ён задумаўся, а затым бясшумным ключом прастукаў радыёграму палкоўніку Доўгалеву:

«Я 11—17. Сёння апоўначы пад пагрузку стануць два транспарты. Радзірую на той выпадак, калі не буду мець магчымасці паведаміць аб іх адплыцці».

Калі б нехта цяпер спытаў у Дзяменцява, чаму ў яго з'явілася сумненне, што ён ноччу, як заўсёды, не перадасць чарговае паведамленне, ён не змог бы адказаць. З'явілася — і ўсё. Калі хочаце, назавіце яго прадчуваннем.

У адзінаццаць гадзін вечара Дзяменцяў выйшаў на вуліцу. Быў цёплы веснавы вечар. Назіральнік гестапа ішоў за ім кроках у пятнаццаці. І зноў Дзяменцяў яго не прыкмеціў.

...У вароты порта ўлівалася доўгая вайсковая калона. Новы пропуск дзейнічаў беззаганна — Дзяменцяў увайшоў у порт адразу за калонай. Вось і прычал. Адзін транспарт ужо стаяў прышвартаваны, другі манеўрываў. Дзяменцяў падняўся на прычалены транспарт.

Гэты карабель быў, відавочна, новы. У труме — суха, чыста. Прыдзерціся не было да чаго. Дзяменцяў падняўся да капітана. Той абыякава выслухаў Дзяменцява і палажыў перад ім караблёвыя дакументы.

67

Дзяменцяў распісаўся і сказаў:

— Вашы трумы ў вельмі добрым стане.

— Чаго нельга сказаць аб нашым рэйху, — сказаў капітан і засмяяўся.

Дзяменцяў здзіўлена паціснуў плячыма і выйшаў з капітанскай каюты. Проста перад ім стаяў Крамергоф.

— Працуеце, капітан Рукерт?

— Калі гэта можна назваць працай, — невясёла ўсміхнуўся Дзяменцяў.

— Што вы такі змрочны?

— А чаму цешыцца? На кожным кроку табе тыцкаюць у нос, што Германія загінула.

— Напрыклад?

Дзяменцяў вачыма паказаў на дзверы капітанскай каюты.

Крамергоф кіўнуў:

— Дзякую, капітан.

Дзяменцяў зышоў на прычал. Другі транспарт ужо прышвартаваўся, але трапы яшчэ не былі спушчаны. Дзяменцяў прахаджваўся перад караблём, абдумваючы свой нечаканы экспромт з даносам на капітана транспарта, «Не, не, і цяпер я паступіў правільна. Пасля гэтага Крамергоф будзе верыць мне яшчэ больш...»

Да Дзяменцява падыйшоў Крамергоф.

— Гэта свіння не пабаялася і мне заявіць тое ж самае, — сказаў ён, дружалюбна ўзяўшы Дзяменцява за локаць. — Час, вядома, цяжкі, але не верыць — значыць здрадзіць? Ці не так?

— Зразумела! — адказаў Дзяменцяў.

— На жаль, з гэтай свіннёй нічога зрабіць нельга. Ён павядзе транспарт з салдатамі. Але нічога, мы яму гэта прыпомнім.

68



 




### І тое, і другое

Ён пыльнай працы не любіў,
Заўжды пры гальштуку хадзіў.
Аднак быў дужа ён ахвочы
Начальству пыл пускаць у вочы.

М. Хамянксў

### І САПРАЎДЫ...

Настаўнік пытаецца ў вучня:

— Мікола, у мяне было пяць яблыкаў. Два я табе аддаў. Колькі яблыкаў у мяне засталося?

— А калі вы мне іх давалі?! — у сваю чаргу пытаецца вучань.

## Тэорыя і практыка

Муж вярнуўся з работы позна вечарам п'яны.

— Ты што? — спытала перапалоханая жонка. — Зноў на ўлазінах быў?

— Н-не. — адказаў муж. — Чытаў на спіртзаводзе лекцыю аб шкодзе алкаголю.



— Вылазь, бо я табе дам зараз!




Знешні выгляд вельмі многа гаворыць аб чалавеку, але не дагаворвае ўсяго да канца.

*

Некаторыя ўяўляюць сабе, што зямля падобна да круглага абаранка.

*

Ёсць людзі, якія глядзяць у будучыню, але зусім не прыкмячаюць нашага, сённяшняга.

*

Жыццё крыжуе нашы планы і дастасоўвае іх да сваіх уласных узораў.

*

Той, хто не патрапіць пазбіраць рассыпаных думак, падобны да разбітай бочкі.



Усе ведалі, што ен скажа, а хацелі ведаць, што думае.

### ЗАБЫЛІСЯ, АЛЕ...

— Чаго ты пасварылася з суседкаю?

— Ды забылася чаго. Але я ёй гэтага ніколі не дарую!

### РАЗМОВА Ў СТАЛОВАЙ

Афіцыянтка: — Вось вам малако.

Кліент: — Яно ж кіславатае!

Афіцыянтка: — А як жа тады ядуць зусім кіслае?



— Не рухайцеся, я пачынаю!..

## КАБАРЭ

У старшыні грамадскай рады сабраліся: Галя — кіраўнік клуба-кавярні, Міхась — сакратар гуртка, Аня — бібліятэкарка і настаўніца Зося.

На расчыненым парозе тырчэў дзед Мірон, грамадскі сторож.

Калісьці старшыня пробаваў выпрашаць Мірона, але ўпарты дзед перамог сваё, і цяпер старшыня не звяртаў на яго ўвагі, не прыдзіраўся.

— Сабраліся мы, — сказаў старшыня, — каб абмеркаваць, як даць шырокае дыханне для культурнага жыцця ў нашым клубе.

— Калі паветра хопіць, дыхайце, — дазволіў дзед.

— Голас маюць члены Камісіі, — прыпомніў старшыня.

Дзед Мірон пераступіў з нагі на нагу, паказваючы гэтым сваё нездавальненне старшынёвай прыпамінкаю.

— Даваць каву гэта яшчэ не культура, зубную пасту прадаваць — таксама не асветная дзейнасць, — гаварыў Міхась.

— Зраблю выстаўку кніжак, — сказала Аня.

— Недалёт, — прабурчэў дзед.

— Па-мойму, Зося можа правесці лекцыю для дарослых аб выхаванні моладзі, — запрапанавала Галя.

— Пералёт, — зноў буркнуў дзед Мірон.

— Пане Мірон, будзь ласкаў не парушаць парадку, — зазлаваў старшыня. І дадаў: — Лекцыя суха выйдзе, трэба пачынаць ад атракцый, каб зацікавіць людзей нашым клубам.

— Кусаюць вас мухі, не ўмееце весяліць людзей, — дабавіў сваё дзед Мірон. — У маладыя годы на таргу ў мястэчку аж вочы разбягаліся, чаго толькі там не было: баба-павук была, барцы рвалі ланцугі, крывыя люстры выкрыўлялі людзей і смяшылі...

— Балаганшчына, — скрывілася Зося.

— Нам патрэбна аматарскі рух развіваць, арганізаваць кабарэ, — уставіў Міхась.

— Кабрыялет сёння не ў модзе, — запярэчыў дзед Мірон.

— Пане Мірон, вы не маеце голасу, — прыпомніў старшыня.

— Цуды цудныя, я без голасу, а мяне ўсе чуюць, — адазваўся Мірон.

— Што пакажам у кабарэ? — пацікавілася Галя.

Міхась выясніў:

— Музыканта маем, значыць, аркестр будзе. Сцёпка будзе ілюзіяністам, ён кніжку мае аб фокусах. Ліда заспявае, яе голас ведаем, чулі. Да таго можна даць акрабатычны танец...

Перапыняючы Міхася, старшыня сказаў:

— Так мы да стрыпціса дойдзем!

— У нас няма каму раздзявацца на сцэне, — заўважыла Аня.

— Залежыць, хто? Напрыклад, каб Люда раздзелася, было б на што паглядзець, — пажартаваў Міхась.

— Цьфу, злыдні! — плюнуў дзед Мірон. — Сабака і той свой сорам пад хвастом хавае, я першы выганю мятлою такую дочку.

— Пане Мірон! Зачыніце дзверы з другога боку, — закрычаў сярдзіта старшыня.

— Палохаеш мяне, ну, і зачыню. Пайду да тваёй жонкі, раскажу, якімі справамі займаешся.

Дзверы зачыніліся за дзедам Міронам, і аб чым там гаварылі далей — невядома. Будзе ў нас кабарэ, ці не будзе? Бяда бядовая з вясковаю культураю, ніяк ніхто не можа ёй прыдумаць чагосьці талковага.

Дзядзька Лявон

### ПАЛЯЎНІЧЫЯ НАСМЕШКІ







## УСЯЧЫНА



Як я вам падабаюся?

## Ці хочаш быць вынаходцам?

(Бясплатныя курсы)

Занятак 4.



Вырашыце наступную лагічную задачу:

Нейкі англійскі студэнт, зняўшы пакой на тыдзень, запрапанаваў гаспадыні ў заплату ланцужок з сямі дарагіх кольцаў, па кальцу за дзень, з той, аднак, умовай, што ён будзе разлічвацца з ёй штодзённа. Гаспадыня згадзілася, паставіўшы ўмову, са свайго боку, што ён можа распілаваць толькі адно кальцо. Як студэнту ўдалося расплачвацца з гаспадыняй?



Адказ на заданне № 3 з папярэдняга нумару:

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Раісы Драшчук** з Клюкавіч, Сямяціцкага павета, змяшчаем фінскую песню

## РУЛАТЭ («ТРА-ЛЯ-ЛЯ»)

Если тебе одиноко взгрустнется,
Если в твой дом постучится беда,
Если судьба от тебя отвернется,
Песенку эту припомни тогда.

Припев:

Рулатэ, рулатэ, рулатэ, рула,
Рулатэ, рулатэ, рула-та-та,
Рулатэ, рулатэ, рулатэ, рула,
Рулатэ, рулатэ, рула-та-та!

В жизни всему уделяется место,
Рядом с добром уживается зло.
Если к другому уходит невеста,
То неизвестно, кому повезло.

Припев.

Если случайно остался без денег,
Верь, что придет изменение в судьбе,
Если ж ты просто лентяй и бездельник
Песенка вряд ли поможет тебе.

Припев.

Песенка эта твой друг и попутчик.
Вместе с друзьями ее напевай.
Если она почему-то наскучит,
Песенку эту другим передай.

Припев.

Ніва

Adres redakcji Białystok ul. Wesołowskiego 1 Telefony red. naczelny 25-83 centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie – 2.40 zł, kwartalnie – 7,20 zł, półrocznie – 14.40 zł, rocznie – 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-151 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje – Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ – w USA. Nakład 5458. Bitk C-3